

# НАВІНЫ З РОДНАЕ СЬВЯТЫНІ

БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

+ ВЕСТКІ З ЖЫЦЬЦЯ ПАРАХВІІ КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВЯТОГА КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА +
401 ATLANTIC AVENUE, BROOKLYN, N.Y. 11217-1702

ГОД 5 ВОСЕНЬ 2005 г. № 1/7

## НАЎСУПЕРАК НЯГОДАМ

Нядаўна ў нашай парахвіі, а за ёю й у БАПЦ сталіся падзеі, празь якія мы дакладней кажам на 2-й бачыне гэтага выданьня, а гэтта толькі адцемім, што ў іхным выніку зьмянілася, як парахвіяльнае, гэтак і вышэйшае духоўнае кіраўніцтва нашае Царквы.

У повязі з гэтым у вернікаў і пабочныхназіральнікаў зьяўляецца, пэўна-ж, пытаньне: чаму гэта ў беларускай царкве ўжо ня першы раз паўстаюць закалоты й выходзяць на яву зраднікі?

Каб адказаць на гэтае пытаньне, трэба сьпярша ўспомніць, што нават у гуртку Хрыстовых вучняў знайшоўся зраднік, што за жменю срэбра прадаў на сьмяротны суд Настаўніка?

Дык, калі наш Збавец, ведаючы Юдавыя думкі й намеры, нятолькі ня выгнаў яго з грамады сваіх пасьлядоўнікаў, але яшчэ й дазволіў яму апекавацца ахвяраванымі прыхільнікамі грашыма, то тых з нас, што дбаюць праз нашую Царкву й бароняць Яе, але ня маюць дару адгадваць людзкія думкі, няма як судзіць за давер да падсыланых ворагамі хітрамоўных агентаў.

Наадварот, гэтым адважным і ахвярным людзям належыцца пахвала ды падзяка за тое, што не спалохаўшыся варожых паклёпаў, пагрозаў і праклёнаў, узноў абаранілі ад захопу й зруйнаваньня акупанцкімі прыслужнікамі й жулікамі нашую парахвіяльную сьвятыню, ды ўсю нашую Сьвятую Царкву.

Заслуга на гэтую пахвалу й падзяку ў гэтых людзей, а мы маем на ўвеце ў першую чаргу Парахвіяльную Раду й Сястрынства Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага, асабліваяя яшчэ й тым, што гэтыя рада й сястрынства ў пераважнай колькасьці складаюцца зь нядаўніх эмігрантаў, што, ня маючы практыкі царкоўнае й грамадзкае дзейнасьці, знайшлі, усё-ж, розум і адвагу, ды згоду невялікім лікам устаяць супраць багатых, а да таго й спрактыкавананых у падкопнай і захопніцкай дзейнасьці ворагаў.



ПОМНІК СЬВ. КІРЫЛУ ТУРАЎСКАМУ Ў ГОМЕЛІ

Ды нятолькі ўстаялі, але й запланавалі, а да таго, зь нястачы грошай, самыя, з дапамогай адно колькіх дабраахвотнікаў, выканалі ўжо значную частку няробленых ад куплі царкоўнага будынку, а неадкладна патрэбных у ім паправаў і палепшаньняў.

Што-ж яшчэ ды колькі болей можна было-б зрабіць, калі-б гэткіх, гатовых памагчы, дабраахвотнікаў, ці хоць крыху актыўных у парахвіяльным жыцьці нашых суродзічаў быў большы лік?!

І гэты лік можа быць шмат больш, калі кожны з нашых чытачоў возьме на ўвагу, што наш царкоўны будынак ня нейчае собскае дабро, а й ягонае, ці ейнае - беларускае, і ён, ці яна, ў складзе беларускае грамады таксама гаспадар, ці гаспадыня гэтага будынку.

Добрыя-ж гаспадар, ці гаспадыня павінны клапаціцца праз спраўны й прыстойны стан іхнае маёмасьці ды, калі трэба яе папраўляць, палепшваць ды рабіць якнайбольш прыгажэйшай.

Гэткае працы ў нас яшчэ шмат наперадзе й таму Парахвіяльная Рада заклікае беларускае грамадзтва ў ЗША, памагчы ёй працай, ці ахвярамі, аднавіць будынак Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, каб ён папрыгажэў і стаў больш выгодны, ды каб гэтым у ім стварыліся яшчэ больш спрыяльныя ўмовы для нашага рэлігійнага жыцьця й кіпела беларуская культурная дзейнасьць, удзельнікамі якіх будзем мы ўсе чыста.

ПРАВАСЛАЎНЫЯ БЕЛАРУСЫ НЬЮ ЁРКУ Й ВАКОЛІЦЫ!
ДАЛУЧАЙЦЕСЯ ДА ПАРАХВІІ КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў БРУКЛІНЕ.
ВЫПАЎНІЦЕ ДЗЕЛЯ ГЭТАГА ЗАЯВУ.
НАВЕДВАЙЦЕ АДПРАВЫ, СЬПЯВАЙЦЕ Ў ХОРЫ!

ПАМАЖЭЦЕ ВАШАЙ АХВЯРАЙ АДНАВІЦЬ І ПАЛЕПШЫЦЬ КУТОК НАШАЕ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ НА ЧУЖЫНЕ - БУДЫНАК КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА!

# ЮДАВЫМ СЬЛЕДАМ - ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ КАНСЫСТОРЫІ БАПЦ

Працягам мінулага году ў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве ў ЗША сталіся шкодныя й небясьпечныя падзеі, што нават пагражалі Ейнаму існаваньню.

З Божай дапамогай, аднак, і дзякуючы адданасьці вернікаў справе нацыянальнае Праваслаўнае Царквы ды іхнай навазе гэтую справу бараніць, знайшлося даволі сілаў, каб БАПЦ ад небясьпекі ўсьцерагчы, ды гэтым забясьпечыць Ей далейшае існаваньне.

Што падзеі, аб якіх будзе гутарка далей, сталіся - ня дзіва, бо ўспомніўшы, што сёньняшні варожы рэжым на нашай Бацькаўшчыне забараніў нават успамін праз БАПЦ, відно, што ён баіцца страціць утрымоўваную праз вернага найміта маскоўскага імпэрыялізму - Беларускі Экзархат РПЦ, духовую ўладу над большасьцяй беларускага народу.

Паколькі-ж Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква адзіная пагроза гэнай чужынскай духовай уладзе, дык і спробы зьнішчыць яе, разваліць зь сярэдзіны, ці зьняславіць, як і ў савецкую пару, працягваюцца, ды наўгад, ці калі спыняцца.

З гэтага й відаць, што найлягчэй зьнішчыць нашую Царкву можна пранікшы нятолькі ў лік Ейных вернікаў, але й усунуўшы ў царкоўнае кіраўніцтва, або знайшоўшы ў ім затоеных прыхільнікаў падпарадкаваньня нашага краю Расеі.

Якраз гэткі хітрык супалкі Лукашэнкаўскага рэжыму зь Беларускім Экзархатам РПЦ і выявіўся ў падзеях у БАПЦ у ЗША за апошні год.

Летась бо вясною, пасьля трох год ліставаньня з Кансысторыяй БАПЦ, у якім ён запэўніваў аб ягонай адданасьці ідэі аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы, ягоным беларускім патрыятызьме й крыўдзе на Беларускі Экзархат за несправядлівае абыходжаньне зь ім, ды гэтым здабыў давер Кіраўніцтва БАПЦ і матэрыяльную падтрымку на ўсьвячэньне на япіскапа Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквою, прыехаў у ЗША, як прадбачылася на стала, новапастаўлены япіскап Васіль (Касьцюк).

У выніку няпраўдаю здабытага даверу, хоць Васіль Касьцюк і не прадставіў пасьветчаньняў ягонага япіскапскага ўсьвячэньня й водпуску зь Беларускага Экзархату РПЦ, ды затаіў ягоныя запраўдныя пагляды і намеры, Першагерарх БАПЦ Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, з прычыны свае хваробы прызначыў 12-га чырвеня Б.л. 2004-га новага, як здавалася, япіскапа Адміністратарам і Сьцеражам Мітрапалічага Пасаду БАПЦ да наступнага Агульна-Царкоўнага Сабору, што ўсьлед пацьвердзіла й Рада БАПЦ.

Калі-ж, аднак, прыйняты на павер япіскап у працягу месяца не прадставіў ні Першагерарху, ані Кансысторыі БАПЦ пастаўное граматы на япіскапа і адпускнога пасьветчаньня зь Беларускага Экзархату РПЦ, Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, 27-га ліпеня 2004-га году, прызначэньне Васіля Касьцюка на кіраўнічае становішча адклікаў.

Каб даць яму, усё-ж, шанс прадставіць довады ягонага кананічнага ўсьвячэньня на япіскапа й унікнуць шкоднага для БАПЦ разгалосу гэтае справы, адкліканьне ня было адразу агалошанае, але за дзейнасьцяй Васіля Касьцюка было ўстаноўленае назіраньне.

Прыкрыя вынікі гэтага назіраньня выявіліся неўзабаве й першым знакам прышлых няпрыемнасьцяў стала наведаньне Касьцюком з сымпатыкам Лукашэнкаўскавае дыктатуры, Юрым Чудзіным (або Юрым Васілеўскім), сьвяткаваньня 60-х угодкаў павароту на Беларусь савецкае акупацыі, ладжанага прадстаўніцтвам у Задзіненых Нацыях улады над Беларусяй, што забараніла ў краі дзейнасьць БАПЦ.

Горшае, аднак, было ўпэрадзе, і пазначылася яно тым, што пад архіпастырскім (?) крылом уськіпеў ненавісьцяй да беларускасьці нядаўні беларускі патрыёт - сьвятар Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне - Ігар Якунін.

Ягоная антыбеларускасьць выявілася нятолькі ў прыроджанай яму балбатлівасьці, але яшчэ болей у намаганьні ўсялякаю цаною не дапусьціць Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне да карыстаньня царкоўнай заляй на сходы й урачыстасьці.

А калі, згодна з амэрыканскім правам, Парахвіяльная Рада, як гаспадар сьвецкае маёмасьці парахвіі, на гэтае карыстаньне згадзілася, сьвятар зь ягоным япіскапам бясправўна падвышалі цану да астранамічнага ўзроўню.

Наступным крокам у іхнай антыбеларускай кампаніі стала выключэньне, неўпадабаных Ігарам Якуніным, за справядлівую крытыку ягоных паводзінаў, чатырох актыўных і карысных у ейнай працы сяброў Парахвіяльнае Рады, што было абвешчанае загадам Васіля Касьцюка пасьля ягонага ад'езду пад канец 2004-га году на Беларусь.

Зразумелая рэч, што на гэткую незаслужаную крыўду іхным калегам, рэшта Парахвіяльнае Рады не магла згадзіцца й, склікаўшы паседжаньне, прыйняла пастановы з довадамі безпадстаўнасьці й паклёпнасьці зробленых ува ўспомненым загадзе абвінавачаньняў.

Гэтыя пастановы ўсьлед былі падтрыманыя Радай БАПЦ.

Пасьля гэтага, таму, што ўспомненыя й далейшыя пастановы ў справах Васіля Касьцюка й Ігара Якуніна, як сакратар Парахвіяльнае Рады й Кансысторыі БАПЦ, складаў сп. Барыс Данілюк, што, да рэчы, найбольш прычыніўся да прыезду гэных абодвых няўдзячнікаў у ЗША, вастрыё іхнае ненавісьці абярнулася супраць яго.

Пасыпаліся вар'яцкія "япікапскія" загады аб ягоным адлучэньні ад БАПЦ, анафеме на яго, забароне праваслаўнаму духавенству хаваць і пад., зьвяртаць на якія ўвагу сьмешна.

Калі-ж гэта не падзеяла, Васіль Касьцюк, сам быцам япіскап БАПЦ, пачаў публікаваць толькі хвораму розуму ўяўныя паклёпы на БАПЦ і выдаў загад аб разьвязаньні Парахвіяльнае Рады ў Брукліне, ды спыненьні дзейнасьці Рады БАПЦ.

Тымчасам Ігар Якунін, зарганізаваўшы жменьку тужліўцаў па Савецкім Саюзе, "дзеяў" таксама, ста-

# НАВІНЫ СЯСТРЫНСТВА

Дзейнасьць сястрынства - дапаўняльная да працы парахвіяльнае рады частка парахвіяльнага жыцьця, безь якое немагчымае існаваньне самое парахвіі.

Таму й тыя, што намерваліся захапіць у парахвіі ўсю ўладу ды "прыхватызаваць" ейную маёмасьць, не забыліся й на сястрынства.

Наадварот, ня здолеўшы разагнаць, ці хоць паралізаваць Парахвіяльную Раду, яны спрабавалі на асягненьне іхных мэтаў выкарыстаць якраз сястрынства.

Таму й адным з загадаў іхнага павадыра яны, з ашуканскіх прычынаў ськінулі ранейшую ўправу сястрынства, ды паставілі на чале гэтае важнае, хоць папярэдня й нефармалізаванае арганізацыі, абдураных імі, а зацятых у забабонах, замест запраўднае веры, "праваслаўна-рускіх" талібаньніцаў.

Гэтая вось асьлепленая жаночая жменька й паймкнулася, не зважаючы на Парахвіяльную Раду, захапіць у парахвіі ўладу ды, "прыхватызаваўшы" маёмасьць пайсьці на чале з "красивым" бацюшкам па шляху на ўсход.

Што кірунак гэтага шляху быў на ўсход відно хоць-бы з таго, што ўзялыя, як ім здавалася, у парахвіі ўладу актывісткі, імкнуліся не дапусьціць да карыстаньня царкоўнай заляй беларускія грамадзкія арганізацыі, дэкляроўваючы ад сябе замест гэтага шчодрыя ахвяры, з бацюшкавага "благаслаўленьня" зьнялі ў калідоры Пагоню, зьбіраліся зьмяніць у царкве бел-чырвона-белы сьцяг на лукашэнкаўскі, ды не таіліся, што ненавідзяць "эту позняковскую речь".

Дзякуючы, аднак, згоднаму й наважнаму супраціву Парахвіяльнае Рады, сябровак Сястрынства й, бяз выйнятку амаль, усіх парахвіянаў, ды Кансысторыі й Рады БАПЦ, варожая атака была адбітая.

Гэтая прыкрая падзея паказала, усё-ж, што, каб ня было больш ейнага паўтарэньня, сястрынства патрабуе статутовага афармаваньня.

Таму Кансысторыя БАПЦ ўсьлед пасьля гэтага апрацавала ўзор статуту парахвіяльных сястрынстваў, на падставе якога 3-га ліпеня г.г. быў скліканы рэарганізацыйны сход дзейных раней сябровак бруклінскага сястрынства, на якім прапанаваны статут быў прыйняты ды патронкай сястрынства абраная Сьв. Еўфрасіньня, Князёўна Полацкая.

Усьлед адбыліся выбары ўва ўправу, у якую увайшлі: сп-ня Зоя Вашкевіч, як старшэйшая сястра, сп-ня Леаніла Сагановіч, як сакратарка й сп-ня Таццяна Красоўская, як скарбніца; на адумысловыя абавязкі й заданьні ўправа можа дапаўняць ейны склад адпаведнымі на гэта сяброўкамі.



СЬВ. ЕЎФРАСІНЬНЯ, КНЯЗЁЎНА ПОЛАЦКАЯ. ПАТРОНКА СЯСТРЫНСТВА. ПОМНІК У ПОЛАЦКУ.

Сход таксама пастанавіў ня зьбіраць сяброўскія складкі, а атрымоўваць грошы на выдаткі з пачастункаў на парахвіяльных урачыстасьцях, продажу кавы й печыва пасьля адправаў, ды адумысловых збораў, і пад.

Пры гэтай нагодзе трэба дадаць, што прыйняты статут сястрынства значна пашырае абсяг ягонае дзейнасьці паза звычныя рамкі прыбіраньня ў царкве й гатаваньня ежы на застольлі.

Гэты пашыраны абсяг адчыняе магчымасьці на дабрадзейную й рэлігійна-асьветную, а да таго й на беларускую культурную й выдавецкую дзейнасьці.

Дабрадзейная дзейнасьць сястрынства не абмяжоўваецца маральнай і матэрыяльнай дапамогай парахвіянам, але можа, пры магчымасьці, падтрымоўваць у патрэбе й іншых годных беларусаў, у тым ліку й пацярпелых ад Чарнобыльскае катастрофы, ці іншых няшчасьцяў суродзічаў на Беларусі.

На рэлігійна-асьветнай дзялянцы дзейнасьці, сястрынства можа й павінна ладзіць сходы ягоных сябровак й іншых зацікаўленых вернікаў дзеля азнаямленьня з асновамі Праваслаўнае Веры й хрысьціянскае маралі, царкоўнымі адправамі, гісторыяй хрысьціянства й Праваслаўнае Царквы на Беларусі, ды Ейнае аўтакефаліі, жыцьцямі сьвятых і пад

Урэшце, у галіне беларускае культурнае дзейнасьці, сястрынства павінна дбаць і прычыняцца да захаваньня сярод нашых суродзічаў на чужыне беларускіх народных традыцыяў і багацьця ўсяе беларускае культуры, ды азнаямленьня зь ёю чужынцаў.

Патрэбныя на выкананьне, апрача ранейшых, і гэтых пашыраных заданьняў грошы сястрынства можа зьбіраць, апрача прыбыткаў з пачастункаў, ці ўрачыстасьйяў, і шыцьцём царкоўных адзеньняў, вырабам рэчаў царкоўнага й беларускага народнага мастацтва, выдаваньнем ды продажай беларускіх кнігаў і часапісаў царкоўна-рэлігійнага зьместу, ці высокага маральнага ўзроўню.

Як аўтаномная адзінка ўва ўлоньні парахвіі, сястрынства будзе мець асобную касу і трымаць ягоныя грошы на асобным банкавым рахунку.

Новавыбраная ўправа й доўга ўжо актыўныя сяброўкі Сястрынства ймя Сьв. Еўфрасіньні Полацкае Парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне нядаўна, на 5-м Беларускім Фэстывалі, ня першы ўжо раз годна паказалі іхную здольнасьць справіцца з пастаўленымі статутам перад імі заданьнямі; цяпер рэшта парахвіянак і парахвіянаў павінна яшчэ больш падтрымоўваць іхную дзейнасьць дапамогай у працы й ахвярамі.

# 5-ты БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ



Побач з гэтымі словамі, Дарагі Чытачу, Вы бачыце рысунак, што быў на значку, які прышпільваўся да адзежы на грудзях кожнага прыйшлага на сёлетні 5-ты Беларускі Фэстываль нашага суродзіча.

Гэты рысунак - ня зьлепак выпадковых формаў, а ўважліва абдуманае злучэньне вобразных выяваў пачуцьцяў беларускае патрыятычнае дыяспары.

На ім бо бачым Сьв. Еўфрасіньняўскі крыж - знак нашае шматвяковае Праваслаўнае Веры, але гэты крыж паказаны ў выглядзе мячовага дзяржака - на знак таго, што нашая Вера нам Божая ахоўніца й духовая абароньніца.

Сьв. Еўфрасіньняўскі крыж на рысунку як-бы ўрослы ў абрыс сэрца - на знак моцы нашае, спадчыннае па мноствах папярэдніх пакаленьняў Веры й нашае непахіснае Ей вернасьці.

Ніжэй відная прымацаваная да крыжа Пагоня - напамін на тое, што нашая Вера неразлучная зь любасьцяй да нашае Бацькаўшчыны й да нашага народу.

Урэшце, вакол і пад Пагоняй бачым пяройшлы ў якар крыж - на знак моцнае надзеі на асягненьне нашых рэлігійных і нацыянальных мэтаў.

З гэткімі вось пачуцьцямі ды выкліка, най імі навагай зладзіць 25-га верасьня лепшы, як калі, чарговы 5-ты Беларускі Фэстываль і ўзяліся Парахвіяльная Рада, ды Сястрынства Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага за справу пару месяцаў загадзя.

А таму, што фэстываль мы арганізуем у той самы дзень, калі мяйсцовая амэрыканская грамадзкая арганізацыя ладзіць на вуліцы перад саборам вялікі міжнародны кірмаш "Atlantic Antic", перш за ўсё ў яе трэба было купіць мейсца на сталы, на якіх мы маглі-б прадаваць нашыя, папулярныя сярод амэрыканцаў стравы - гэтым зайняўся сп. Барыс Данілюк. Да гэтага быў патрэбен яшчэ дазвол на продаж ежы ад меставае ўправы Нью Ёрку, які атрымаў сп. Уладзімер Цяліца.

Калі ўжо мейсца на кімашы й дазвол на продаж там ежы былі забясьпечаныя, яшчэ засталася патрэба знайсьці ды запрасіць сьпевакоў і музыкаў выступіць падчас бяседнае часткі фэстывалю перад нашай публікай у залі.



Таццяна Дзямешчык, Аляксандар Балотнік і Вольга Дзямешчык

Гэтае дыпляматычнае заданьне было даручанае сп. Мікалаю Сагановічу й ён выканаў яго выдатна - дзякуючы ягонаму ўмецтву пераконваць - ласкава згадзіліся выступіць на фэстывалі бясплатна сп-ня Таццяна Дзямешчык з дачкою Вольгай і сп. Аляксандар Балотнік з Саўт Рывэру.

Апрача таго, улічваючы дазнаньні з папярэдніх год, калі на фэстывалях, дзеля няведаньня словаў, ня дужа ўдаваліся спробы супольных сьпеваў падчас застольля, сп-ва Леаніла й Мікалай Сагановічы ахвяраваліся заплаціць за выданьне зборніка словаў найбольш агульна ўпадабаных беларускіх песьняў, а сп. Барыс Данілюк узяў на сябе абавязак прыгатаваць гэты зборнік да друку.

Разам за гэтым трэба было яшчэ зарганізаваць лятарэю - пераважна з падораных сп-вам Аляксандрам і Нінай Сільвановічамі з Саўт Рывэру беларускіх сувэніраў ды й з ахвяраваных сябрамі Парахвіяльнае Рады й Сястрынства пляшак віна, ды дзе-якіх дробных рэчаў на суцешныя выйгрышы.



Прадаўніцы страваў перад царквою (зьлева направа): сп-ні Зоя Вашкевіч, Людміла Бакуновіч, Кацярына Швўчэнка. Удругім радзе сп.сп. Барыс Данілюк і Мікалай Вашкевіч.

Зайняцца гэтым згадзіўся сп. Сяргей Капытка, але з прычыны неспадзяванай сьмерці ў сям'і ня змог быць на

# 5-ты БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ

змог быць на фэстывалі й ягоны абавязак узялі на сябе сп.сп. Віталь Міхноўскі й Анатоль Колбун.

Пакуль ішла падрыхтоўчая частка арганізацыі фэстывалю, управа Сястрынства ў складзе сп-няў Зоі Вашкевіч, Леаніды Сагановіч і Тацьцяны Красоўскае, з дапамогай аматара майстра-кухара, сп. Мікалая Вашкевіча, складала мэню й вэрбавала сяброўвак Сястрынства на гатаваньне патрэбнае на фэстываль ежы.

З набліжэньнем даты фэстывалю прыйшла й пара зладжыць, надрукаваць ды разаслаць запросіны, падаць абвестку ў газэту "Беларус", ды да гэтага яшчэ прыгатаваць значкі, аб якіх была гутарка на пачатку гэтага артыкулу - усё гэта зрабіў сп. Барыс Данілюк.



Сп. Васіль Кузьменка прадае беларускія сувэніры й вартуе скарбонку на ахвяры. За ім сп-ні Зоя Вашкевіч і Кацярына Шаўчэнка.

А тады, ужо колькі дзён перад фэстывалям трэба было пачаць купляць прадукты, чым зайняліся сп-ва Вашкевічы й Сагановічы.

Напярэдадні-ж пачалося гатаваньне ежы, як у царкоўнай кухні, гэтак і ў дамох згодных памагчы сяброўвак сястрынства.



Сп-ні Тацьцяна Красоўская й Кацярына Шаўчэнка накладаюць наетак сп. Васілю Кузьменку.

Разам з гэтым ішло чысьценьне царквы й залі, што зрабілі сп-ва Вашкевічы й Сагановічы, ды сп-ні Тацьцяна Красоўская й Ларыса Пузач, а да гэтага яшчэ залю пасьвяточнаму ўдэкаравалі сп.сп. Сяргей Капытка й Віталь Пузач.

Пасьля ўсіх гэтых зайняткаў настаў урэшце дзень фэстывалю і ўздоўж дзесяці кварталаў паабапал Атлэнтык авэню як мурашнік закішэў натоўп прадаўцоў, што шчыльна адзін каля аднаго разстаўлялі іхныя сталы й буданы.

Ад самага раньня працавалі й некаторыя сябры Парахвіяльнае Рады, ды сяброўкі Сястрынства, бо ўперадзе было падвойнае заданьне: задаволіць і накарміць чаканую беларускую грамаду ў залі, ды прадаць якнайбольш падрыхтаванае ежы наведвальнікам кірмашу на вуліцы.

Але падрыхтаванае ў царкоўнай кухні і прывезенае з дамоў ежы назьбіралася даволі на прадбачаныя патрэбы й неўзабаве мужчыны выставілі на вуліцу перад царквою сталы й узьнялі над імі будан.

У царкве, тымчасам, а 10-й г. пачалася Сьв. Літургія, якую правіў а. Вячаслаў Логін, а хорам кіраваў наш новы рэгент, сп. Уладзімер Цяліца.

Пасьля-ж адправы, былыя на ёй маленькі й прыбылыя пазьней госьці накіраваліся ў парахвіяльную залю, дзе пры дзьвярах вітаў іх і прадаваў уваходныя значкі, ды кожнаму бясплатна ўручаў беларускі сьпеўнік сп. Мікалай Сагановіч.

Тых, што ўвайшлі, чакалі ўжо буфэтныя сталы зь вялікім запасам звыклае й смачнае на наш густ ежы, дык кожны з гасьцей, набраўшы шчодрую порцыю, засеў за адным з бакавых сталоў, каб пад гукі беларускае музыкі з дыскаў ласавацца нештадзённымі прысмакамі.

Неўзабаве прыехалі й музыкі, ды пачалася канцэртная частка фэстывалю, у якой былі ласкавыя выступіць сп-ня Тацьцяна Дзямешчык, разам з дачкою Вольгай, ды сп. Аляксандар Балотнік.

Найлепшай ацэнай узроўню іхных выступаў з роднымі кожнаму з нас песьнямі былі шчодрыя воплескі ўдзячнае публікі.

Калі-ж яны яшчэ пачалі сьпяваць і граць нашыя песьні з раздадзенага пры ўваходзе сьпеўнічка, шмат хто з залі пачаў ім падсьпеўваць і раз за разам было прыемна чуць зусім зладны беларускі хор.

Пасьля таго як усе ўжо насьпяваліся, сп.сп. Валеры Дворнік, Анатоль Колбун і Віталь Міхноўскі правялі розыгрыш багатае лятарэі, да ўдзелу у якой заахвочваў немалы лік беларускіх сувэніраў і бутэляк віна.

Нажаль нашым гаспадыням, што працавалі на кухні, а гэта сп-ням Зоі Вашкевіч і Леаніле Сагановіч

*Заканчэньне на 8-й бач.*

# ПЕРАД БУДУЧЫНЯЙ

Бог нярaз пасылае нам цяжкія выпрабаваньні, аале, калі ад гэтых выпрабаваньняў мы не заломваемся, а мацнеем, Ён усьлед узнагароджвае нас Ягонымі багатымі ласкамі.

А якія-ж могуць быць гэтыя ласкі, як не пабожныя й уверaныя ў Божай волі, каб кожны створаны Богам народ маліўся ў роднай яму царкве на роднай мове й ахвярныя на гэтую справу людзі.

Што гэта так мы пераконваемся амаль штодня, калі зьяўляюцца патрэбы на канкрэтныя ўчынкі, як неабходнасьць даўно насьпелых рамонтаў будынку нашае сьвятыні.

Неадкладныя, пэўна-ж, папраўы рабіліся ў будынку й раней, і аб іх мы пісалі, ды дзякавалі тым, хто гэтыя папраўы рабіў.

Але праз капітальны рамонт, патрэба на які расла з кожным годам, ніхто сур'ёзна не гаварыў, бо ня было на гэта ні даволі капіталу, ані сваіх майстроў.

Ажно, як толькі пачалося змаганьне супраць варожых спробаў захапіць нашую сьвятыню й абярнуць яе ў аптыбеларускае воўчае котла, пачалі выяўляцца й майстры, ды й знаходзіцца крыху грошай, праўда, замала, каб плаціць за работу, але даволі, каб пакрысе й ашчадна купляць неабходныя на папраўы матарыялы.

А патрэбаў на гэтыя папраўы назьбіралася безьліч, бо будынак заснаваны ў 1902-м годзе й нямала што ў ім ужо дажыло свайго веку, а перш за ўсё вокны.

Замовіць іх і найняць майстроў уставіць было далёка не па нашай кішэні й тут выявілася беларуская вынаходлівасьць - сп.сп. Расьціслаў Гарошка, Мікалай Вашкевіч, а пазьней і Васіль Кузьменка пачалі рэзаць, ды складаць мэталёвыя рамы самыя, давялося дакупляць толькі шыбы.

Сёньня, з дапамогай дабраахвотных памочнікаў, якім мы паймена падзякуем далей, ужо ўстаўленыя вокны на першым паверху будынку й з аднаго боку на другім.



Дабраахвотнікі ўстаўляюць вокны: зьверху сп. Васіль Кузьменка, ніжэй сп. Віталь Пузач, у вакне відзён сп. Іван Кудзін.



Сястрынства частуе работнікаў полуднням, зьлева направа: сп.сп. Расьціслаў Гарошка, Барыс Данілюк, Мікалай Сагановіч, сп-ні Леаніла Сагановіч, Ларыса Пузач, і сп.сп. Віталь Пузач, Віталь Міхноўскі, Васіль Кузьменка й Іван Кудзін. Здымак рабіў сп. Андрэй Падлескі.

Пакольк-ж рамы ўжо складзеныя на рэшту бакавых вокнаў другога паверху, можна спадзявацца, што й яны будуць устаўленыя да пачатку зімовых халадоў, а франтавыя крыху пазьней, або навесну.

Побач з патрэбай новых вокнаў пякучым клопатам была і неабходнасьць зьмены 50-ці гадовае даўнасьці сыстэмы ацяпленьня, ды разам, з увагі на летнія сьпякоты ў Нью Ёрку, і ўсталяваньня ахадоднага ўдаджаньня (кандыцыянэраў), але, зь веды, што гэта каштуе вялікія грошы, справа заставалася ў прасторы лятуценьняў.

У Бога, аднак, усё магчыма й, хоць мы не адважваліся прасіць у Яго гэткае дапамогі, Ён яе нам нядаўна зусім нечакана паслаў.

З дапамогай-жа ў гэтай справе прыйшоў да нас наш зямляк, сп. Валеры Гойдзь, што ахвяраваўся ўсталяваць новую сыстэму ацяпленьня й ахалоджваньня будынку бяз платы за ягоную й ягоных работнікаў працу, а толькі за патрэбныя матарыялы й апаратуру.

Ягоная ахвяра, пэўна-ж, была прыйнятая зь вялікай удзячнасьцяй і, калі гэты нумар "Навінаў з Роднае Сьвятыні" дайдзе да нашых чытачоў, можна спадзявацца, што ў нашым царкоўным будынку будзе ўжо працаваць новая сыстэма ацяпленьня й ахалоджваньня.

На чарзе, пасьля гэтага, патрэба забясьпечыць ад разыходжаньня вонкавыя сьцены, на якія насядаюць абцяжаныя колькіма пакладамі стрэхавага пакрыцьця нясьцягнутыя нічым кроквы.

Але й на гэта ў нас знайшоўся свой майстар - наш стараста, сп. Анатоль Колбун, што працуе якраз у гэткай спэцыяльнасьці.

Ён пастараўся атрымаць патрэбную інжынерную дакумэнтацыю й, калі знойдуцца дабраахвотнікі, ды будзе куплены патрэбны матарыял, праца пойдзэ.

Калі-ж гэтыя фундамэнтальныя адновы будуць завершаныя, пачнецца нутраное выканчэньне й ўпры-

# ПЕРАД БУДУЧЫНЯЙ

гожваньне царквы, а таксама й залі.

У царкве ў першую чаргу, пэўна-ж, будзе скончанае аднаўленьне іканастасу, сьпераду паабапал якога маюць быць пабудаваныя ў такім самым стылі як іканастас два ківоты на большыя іконы.

У гэткім-жа стылі заплянаваныя й рамы на іконы між вокнамі на бакавых сьценах.

Апрача гэтага, у пляне й падняць на адзін паверх хоры, а пад імі зрабіць мейсца на продаж сьвечак, іконаў, рэлігійных кнігаў і пад.

Тады застанецца выгладзіць ды памаляваць сьцены й столь, пакласьці новую падлогу й нашая сьвятыня займее выгляд, якім усе мы зможам ганарыцца.



Частка дабраахвотных работнікаў (зьлева направа): сп-ва Зоя й Мікалай Вашкевічы, Васіль Кузьменка, Мікалай Сагановіч, Расьціслаў Гарошка, Віталь Міхноўскі, Леаніла Сагановіч, Уладзімер Цяліца. Здымак рабіў сп. Сяргей Капытка.

Разам з гэтым і ў залі будуць выгладжаныя й памаляваныя сьцены, папалітураваная падлога, пабудаваныя шафы на адзеньне для наведвальнікаў сьвяткаваньняў і застольляў, нанава ўдэкараваная сцэна, на якой стане новая гукавая сыстэма, ды ўся заля будзе нанава ўпрыгожаная.

Тады, аднаўлены ды ўпрыгожаны, добра ацеплены зімою й ахаладжваны ў летнія сьпёкі наш куток Бацькаўшчыны на чужыне стане мейсцам, у якім можна будзе годна памаліцца Богу, адзначыць нашыя нацыянальныя ды народныя сьвяты, справіць сямейныя ўрачыстасьці, ці пагаварыць з суродзічамі аб справах, або аб усім, што набяжыць на думку.

За гэта ўсё, як доўга будзе існаваць нашая парахвія й Царква, у памяці застанецца ўдзячнасьць тым, што іхнай ахвярнай працай спрычыніліся да неўяўнога раней аднаўленьня нашага царкоўнага будынку, а гэта сп-м і сп-ням Зоі й Мікалаю Вашкевічам, Расьціславу Гарошку, Віктару Дудараву, Сяргею Капытку, Анатолю Колбуну, Івану Кудзіну, Васілю Кузьменку, Віталю Міхноўскаму, Андрэю Падлескаму, Віталю й Ларысе Пузачам, Мікалаю й Леаніле Сагановічам, Віталю Буносу ды Ўладзімеру Цяліцы.

Заклікаем нашых парахвіянаў і парахвіянак далучыцца да гэтых ахвярных работнікаў, ды спадзяемся, што ў наступным нумары "НзРС" будзем дзякаваць яшчэ большай колькасьці дабрахвотных працаўнікоў.

Усіх-жа просім памагчы справе аднаўленьня нашага царкоўнага будынку магчыма шчодрымі ахвярамі.

Урэшце, не ў апошнюю, а ў першую чаргу хочам падзякаваць Богу за чуды, якімі Ён нас ушчадрыў, ня даўшы ворагам узяць над намі верх, узбагаціўшы ахвочымі памагчы працай і грашыма парахвіянамі ды прыхільнікамі, прыслаўшы нам адумыслоўцаў, што бясплатна робяць работы, заплаціць за якія мы ніколі не назьбіралі-б грошай ды накіраваўшы да нас чалавека, што бязыменна ахвяраваў тысячу даляраў.

У ваблічча гэтае відавочнае Божае ласкі, ня будзьма-ж, Дарагія Парахвіяне й Парахвіянкі, ды Праваслаўныя Беларусы, у тым ліку й нашая моладзь у Нью Ёрку й у Амэрыцы, няўдзячныя, а далучаймася да парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, падтрымоўвайма яе наведваньнем Божых Службаў і ладжаных у царкоўным будынку ўрачыстасьцяў, сьпявайма ў хоры, памагайма ўтрымоўваць і палепшваць будынак працай, ды ахвярамі й, гэткім чынам, заслугоўвайма на далейшую Божую ласку.

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне-ж - адзіную беларускую грамадзкую арганізацыю ў ЗША - запрашаем нятолькі зьбіраць у парахвіяльнай залі сходы, але й, зарганізаваўшы нашую моладзь, рабіць вечарыны, паказы сцэнавага мастацтва ды іншыя беларускія культурныя імпрэзы.

**ПАРАХВІЯЛЬНАЯ РАДА й СЯСТРЫНСТВА КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА ЗАПРАШАЮЦЬ ВАС НА**

## ПЕРАДПІЛІПАЎКАВЫЯ АЛАДКІ

**У НЯДЗЕЛЮ, 27-га ЛІСТАПАДА 2005-га Г., ПАСЬЛЯ СЬВ. ЛІТУРГІІ Й ПАНІХІДЫ ПА СЛУЦКІХ ЗМАГАРАХ.**

**УВАХОД НА ЗАЛЮ й ПАЧАСТУНАК $ 10.00.**

**ПРЫХОДЗЬЦЕ САМЫЯ Й ЗАПРАШАЙЦЕ ІНШЫХ!**

**ПАДЗЯКА**

Парахвіяльная Рада шчыра дзякуе за шчодрыя ахвяры на аднаўленьне будынку наступным асобам: Ананімна - $ 1000.oo, Зоі й Мікалаю Вашкевічам - $ 250.oo, Расьціславу Гарошка - $ 500.oo, Барысу й Марыі Данілюкам - 500.oo, Сяргею й Тамары Капыткам - $100.oo, Юраму й Браніславе Касьцюкевічам - $ 500.oo, Вітаўту Кіпелю - $ 250.oo, Андрэю й Галіне Падлескім - $100.oo, Мікалаю й Леаніле Сагановічам - $ 500.oo.

Вярні ім, Божа, у сто раз!

## ЮДАВЫМ СЬЛЕДАМ

*(Заканчэньне з 2-е бач.)*

раючыся выгнаць з царкоўнага будынку сьведамых беларусаў, зьняць нашую нацыянальную сымболіку, ды прымусіць змоўкнуць там ненавісную “позняковскую речь”.

Разам з гэтым Ігар Якунін, пад павадырствам хітрэйшага й больш адукаванага за яго тужліўца па Савецкім Саюзе ды зайздросьніка сёньняшняе амэрыканскае, быццам-бы, гэґэмоніі ў сьвеце, Юрага Чудзіна, не забыліся й на прапаганду іхных паглядаў, ды дзейнасьці друкам і, бяспраўна захапіўшы выдаваную раней за грошы сп. Расьціслава Гарошка газэту “Беларускі Час”, наўсуперак ейнага ранейшага патрыятычнага кірунку, абярнулі яе ў несказанымі імі крыніцамі фінансаваную пра-лукашэнкаўскую гадзюкаўку.

Уся гэтая нахабнасьць, хамства й брыда перасягнула ўрэшце мяжу спадзеву на апамятаньне нягоднікаў й зь 19-га травеня Б.л. 2005 Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў забараніў ярэю Ігару Якуніну выконваць сьвятарскія абавязкі, а Рада БАПЦ загадала яму перадаць вызначаным прадстаўнікам царкоўнага кіраўніцтва парахвіяльную й япархіяльную маёмасьць, ды выбрацца з царкоўнага памешканьня ў Брукліне.

Нічога гэтым прадстаўнікам Ігар Якунін ня перадаў, а выбраўся тайком не пакінуўшы новага адрысу, пасьля чаго адумысловай камісыяй былі знойдзеныя знарочныя пашкоджаньні царкоўнага будынку ды ўстаноўленае зьнікненьне частак парахвіяльнае й япархіяльнае маёмасьці, за спраўнасьць і цэласьць чаго Ігар Якунін быў адказны.

У ваблічча гэткае непаслухмянасьці й знарочнага шкодніцтва Я.М. Мітрапаліту Ізяславу не заставалася нічога іншага, як з днём 26-га чырвеня Б.л. 2005-га пазбавіць ярэя Ігара Якуніна сьвярскае годнасьці й выдаліць зь ліку духавенства БАПЦ, што яго, відаць, ня дужа абыйшло, бо, паводле годных веры вестак, ён ажаніўся з адной із збунтаваных ім парахвіянак, чым, паводле канонаў, сам сябе пазбавіў сьвятарскае годнасьці.

Усьлед давялося зрабіць і канчатковы выснаў аб учынках Васіля Касьцюка, як варожай і ськіваранай на зьнішчэньне БАПЦ дзейнасьці й, у выніку гэтага Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў з днём 27-га ліпеня Б.л. 2005-га загадаў адлучыць яго ад ліку герархіі й духавенства БАПЦ, а Рада БАПЦ 24-га верасьня Б.л. 2005-га прыйняла гэты загад да выкананьня.

Гэткім чынам скончылася чарговая нізка варожых спробаў зьнішчыць Сьвятую Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву й Яна, спадзяючыся на падтрымку вернікаў, зь вераю ў Божую ласку й апеку крочыць нязьмененым шляхам у будучыню.

Кансысторыя БАПЦ

**НАВЕДВАЙЦЕ СЕЦІЎНУЮ МЕСЬЦІНУ БАПЦ**
www.belaoc.com
**АБО АДГУКАЙЦЕСЯ ЭЛЕКТРОННАЙ ПОШТАЙ**
belautoc@yahoo.com

**ЧАСОВЫ ПАРАДАК БОЖЫХ СЛУЖБАЎ**
**У КАСТРЫЧНІКУ г.г АДПРАВЫ СЬВ. ЛІТУРГІІ БУДУЦЬ У НЯДЗЕЛІ 16-га й 30-га, А З ПАЧАТКАМ ЛІСТАПАДА Ў КОЖНУЮ 2-ю й 4-ю НЯДЗЕЛІ МЕСЯЦА, г.зн. 13-га й 27-га ЛІСТАПАДА ды 11-га й 25-га СЬНЕЖНЯ.**
**ПАЧАТАК, ЯК І РАНЕЙ, А 10-й г.р.**
**ДАЛЕЙШЫ ПАРАДАК АДПРАВАЎ БУДЗЕ АБВЕШЧАНЫ ПАЗЬНЕЙ.**
**ПЕРАД АДПРАВАМІ МОЖНА ЙСЬЦІ ДА СПОВЕДЗІ ДЫ ЗАМАЎЛЯЦЬ ПАНІХІДЫ Й МАЛЕБНЫ.**

## 5-ты БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ

*(Заканчэньне з 5-е бач.*

ды што прадавалі стравы на вуліцы, а гэта той-жа сп-ні Зоі Вашкевіч і сп-ням Людміле Бакуновіч, Тацьцяне Красоўскай ды Кацярыне Шаўчэнка было не да сьпеваў і разрывак, бо бяз перапынку трэба было грэць, падносіць і накладаць ежу, каб здаволіць доўгую чаргу куплячоў, што ўсьцяж чакала перад нашым стайком.

Побач-жа із стайком зь ежай, стаяў стол зь беларускімі сувэнірамі на продаж і скрынкай на ахвяры на нашую царкву, ды брашуркамі-складанкамі перад ёю, у якіх паангельску была коратка апісаная гісторыя нашае парахвіі й Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

За гэтым сталом цярпліва ўвесь час наглядаў сп. Васіль Кузьменка й не дарма - у скрынку шчодрыя мінакі ўкінулі больш сотні даляраў.

Але кожнай прыемнасьці і кожнай працы бывае канец - гэтак і беларуская грамада ў залі, добра пад’еўшы, наслухаўшыся нашых музыкаў і нашае музыкі з дыскаў, ды насьпяваўшыся й нагутарыўшыся, каля 4-е гадзіны пачала разыходзіца, дык пасьля падзячнага слова ад Сястрынства й Парахвіяльнае Рады сп-ні Зоі Вашкевіч, нашыя слаўныя музыкі зачынілі ўрачыстасьць песьняй “Бывайце здаровы” з крыху зьмененымі, бо без успаміну на калгас, словамі.

Усьлед за гэтым, таму, што разыйшлася ежа, давялося зачыніць і стаёк на вуліцы, хоць яшчэ нямала наведвальнікаў кірмашу пытала нашых страваў, а некаторыя нат казалі, што прыйдуць па дранікі на фэстываль за год.

5-ты Беларускі Фэстываль удаўся лепш за ўсе папярэднія й за гэта трэба падзякаваць сяброўкам і несяброўкам Сястрынства, сп-ням Людміле Бакуновіч, Марыі Варабей, Зоі Вашкевіч, Ганьне Войтэнка, Марыі Данілюк, Аляксандры Лістоўскай, Тацьцяне Красоўскай, Ларысе Пузач, Леаніле Сагановіч і Кацярыне Шаўчэнка, што згатавалі смачныя стравы, а некаторыя зь іх зрабілі яшчэ шмат патрэбнае да падрыхтоўкі і падчас фэстывалю работы.

За іхную працу да й падчас фэстывалю належыць таксама падзяка й сябрам, ды несябрам Парахвіяльнае Рады, сп.сп. Мікалаю Вашкевічу, Барысу Данілюку, Валераму Дворніку, Віктару Дудараву, Сяргею Капытку, Анатолю Колбуну, Васілю Кузьменку, Віталю Міхноўскаму, Мікалаю Сагановічу, Віталю Пузачу ды Уладзімеру Цяліцы. ¤